ВЫХОДЗІЦЬ З ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

# Беларуская МАЛАДЗЕЖНАЯ

*Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета* №1

## Прывітанне

"Хто згубіўся, разгубіўся ў гэтым свеце -- сустракайцеся, шукайце сяброў і аднадумцаў на хвалі радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная"...

Я пачынала так амаль кожную сваю перадачу ў прамым эфіры -- чалавеку вельмі патрэбна, каб хоць дзе-небудзь яго чакалі сябры, аднадумцы. Свет наш зараз такі, што часцяком ні дома, ні на працы, ні ў інтэрнаце, ні ў аўдыторыі нас не чакаюць. У сучасным нашым грамадстве чалавек, па-сутнасці, не патрэбны нікому...

А ў нас з вамі было па-іншаму! Вы памятаеце, колькі разоў круцілі вы тэлефонны дыск, каб паспрачацца з Віталем Сямашкам, задаць пытанне Алене Радкевіч, "падкінуць ідэйку" Алесю Дайнеку? Вы памятаеце колькі разоў дражніла вас наша "застаўка" -- "Самая беларуская, самая маладзёжная"! Прызнайцеся -- вы ў гэта сапраўды паверылі...

З 28 мая радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" ў эфіры няма. Гісторыю "знікнення" вы павінны ведаць -- ужо два тыдні пра гэта пішуць газэты, распавядала тэлебачанне Расеі і "Молодежный канал", калегі з Дзержтэлерадыё Беларусі іншым разам "прабіваюцца" і на хвалі "нашага" радыё. Заявы ў падтрымку "Беларускай маладежнай", якая не згадзілася быць пакорлівым сродкам для ўладнай маны, прынялі палітычныя партыі і грамадскія рухі, кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду, XXXI з'езд Саюза Моладзі Беларусі, творчыя, вытворчыя, рэдакцыйныя калектывы... Ад званкоў слухачоў "успухлі" тэлефоны ў Камісіі па галоснасці і правах чалавека Вярхоўнага Савета, у прыёмных Саўміна, у кіраўнікоў Дзяржтэлерадыё.

Вынік -- ваш голас нішто для ўладнага чынавенства. Пазіцыя "Беларускай маладзёжнай" для яго -- шкодная "недарэчнасць" ў гладка спланаванай прэзідэнцкай кампаніі. 8 чэрвеня на сустрэчы з выбаршчыкамі ў Магілёве прэм'ер -- міністр В. Кебіч недвухсэнсоўна заявіў, што "маладзёжку" болей не пацерпіць і "разбярэцца" яшчэ з некаторымі сродкамі масавай інфармацыі. 9 чэрвеня зранку супрацоўнікаў радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" пачалі звальняць...

Гэтая газета -- сведчанне, што "маладзёжка" не растаптаная. На гэтых старонках вас чакаюць знаёмыя прозвішчы журналістаў "Беларускай маладзёжнай" і сустрэчы з нашымі гасцямі -- тымі, хто павінен быў ці мог быць запрошаны ў прамы эфір. Мы гаворым з вамі як заўсёды -- сумленна і шчыра, не хаваючы іроніі і часам сарказму. Мы расказваем вам пра падзеі, факты, людзей і кожны раз пытаемся: "Што думаеце вы?" Шкада, што пазбаўленыя мы тэлефона прамой студыі, каб адразу пачуць адказ.

А рубрыкі свае мы захавалі -- вам будзе зручней. І калі справа толькі ў музычным фоне -- уключыце радыё. Там замест "Беларускай маладзёжнай" столькі то пахавальнай, то залішне гуллівай музыкі...

Мы яшчэ вернемся!

***Тацццяна НІЧЫПАРУК /МЕЛЬНІЧУК/,***
***былы намеснік галоўнага рэдактара радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная", рэдактар газеты "Беларуская маладзёжная", ваш знаёмы эфірны мадэратар***

## Заява радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная"

9 чэрвеня намеснікам Старшыні Дзяржтэлерадыё С. Булацкім было афіцыйна засведчана, што "Беларуская маладзёжная" пазбаўляецца статуса радыёстанцыі ў зацверджанай Саўмінам структуры Дзяржтэлерадыё. Тым самым інфармацыя нашага кіраўніцтва, перададзеная ў гэты ж дзень праграмай "Радыёфакт", што "аб закрыцці радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная"..." не было нават размовы" з'яўляецца хлуснёй.

Спробы заткнуць "маладзёжцы" рот за апошнія два гады прадпрымаліся неаднаразова. У арсенале матадаў кіраўніцтва адхіленні вядучых ад эфіру, адміністрацыйныя спагнанні за парушэнні "інструкцыяў" па выдачы ў эфір, патрабаванні звальнення асобных журналістаў, забароны цэлых праграмаў і радыёдзён. Матырыялы, якія меліся выйсці ў эфір, папярэдне праслухоўваліся кіраўніцтвам, цэнзураваліся ці наогул адвозіліся ў Саўмін для праверкі на адпаведнасць афіцыйным устаноўкам. Канчаткова маскі былі скінутыя 8 чэрвеня на сустрэчы прэм'ера Кебіча з выбаршчыкамі ў Магілёве, дзе ён, адказваючы на пытанне ўдзельнікаў сустрэчы, зазначыў, што "Беларуская маладзёжная" "палівала" ўрад і асабіста яго "брудам", і параіў тым, хто жадае, каб радыёстанцыя існавала, знайсці сродкі на адкрыццё незалежнай "хвалі".

Гэткім чынам ясна, што так званая рэарганізацыя сістэмы радыё і тэлебачання стала падставай для расправы над няўгоднымі журналістамі і калектывамі. З эфіру знікла радыёстанцыя з больш як 30-гадовай гісторыяй і традыцыямі, якая адкрыта выступіла ў падтрымку маладой беларускай дзяржаўнасці, незалежнасці, Адраджэння, за права на слова розным палітычным плыням і сацыяльным групам.

Мы заклікаем слухачоў і прыхільнікаў нашай радыёстанцыі да байкоту эфірнага часу, які раней належыў "Беларускай маладзёжнай". Мы кваліфікуем тое, што адбылося, як палітычную акцыю і наступ на свабоду слова і лічым, што гэта ёсць сур'ёзная падстава задумацца ўсім грамадзянам Беларусі, якія прыйдуць 23 чэрвеня на выбарчыя ўчасткі.

***Ж. Літвіна, Т. Нічыпарук, В. Сямашка, А. Радкевіч, А. Дайнека, А. Хмяльніцкі, Л. Вольскі, І. Кобзік, А. Вечар, І. Студзінская, І. Курапаткіна, В. Бабак, У. Давыдоўскі, Н. Пятроўская, З. Лукашук, Г. Харужая, Г. Кеснер, Ю. Быкаў, У. Сакульскі, З. Падбярэзскі***

## З заявы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Станіслава ШУШКЕВІЧА

Забарона выхаду ў эфір папулярных радыёстанцый "Беларуская маладзёжная" і "Крыніца", адлучэнне ад работы іх вядучых журналістаў пад прыкрыццём "рэарганізацыі" Дзяржтэлерадыё яскрава гаворыць пра тое, што сілы наменклатурнага рэваншу на Беларусі пайшлі ў жорсткі наступ нават на тыя сціплыя заваёвы ў галіне галоснасці, свабоды слова, якіх наша грамадства дамаглося ў апошнія гады...

Старая ўлада, заснаваная на крывадушнасці, дэмагогіі і падмане, панічна баіцца праўды, вольнага спаборніцтва ідэй. Гэты ўдар па галоснасці не выпадкова наносіцца напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў: збанкрутаваныя, недзеяздольныя палітыкі, якія сутаргава ўчапіліся за кіраўнічыя крэслы, хочуць канчаткова ператварыць сродкі масавай інфармацыі ў паслухмяны інструмент абалваньвання простага люду, каб любой цаной захаваць сваё панаванне.

## *АХ, ЯКАЯ БЫЛА СТАНЦЫЯ!*



## З заявы дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі

Апазіцыя БНФ неаднаразова з'вяртала увагу грамадскасьці Беларусі і міжнароднай супольнасьці на становішча у сродках масавай інфармацыі, якое адметна поўным ігнараваньнем законаў і прынцыпаў свабоды слова з боку ўрада...

Наступ на дэмакратычных журналістаў і незалежную прэсу невыпадковы -- Савет Міністраў і паслухмяны яму Вярхоўны Савет зацікаўленыя, каб выбары прэзідэнта адбываліся ў становішчы інфармацыйнага падману грамадства...

Таталітарызм павінен быць спынены.

***Мы атрымалі дзясяткі заяваў у нашую падтрымку ад палітычных партыяў і грамадскіх аргрнізацыяў, сотні лістоў і безліч тэлефанаванняў (пакуль мелі працоўныя месцы ў Доме радыё) Пра ўсё ў адным нумары распавесці немагчыма.***

***Але ведайце -- ён не апошні!***



## *Мы яшчэ вернемся!*

# "КВАДРАКОЛА"

Прывітаньне. Тым, хто ня памятае альбо проста ня ведае, што такое "Квадракола", мушу патлумачыць, што гэта перадачка, якая на працягу апошняга году рэгулярна выходзіла у эфір, гойдаючыся на хвалях радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Вёў гэтую перадачку квадраколер Лявон Вольскі й размова ў ей вялася пра мастацтва, пра творчасьць. Але зь цягам часу квадраколер зразумеў, што пад гэтыя два словы -- "мастацтва" й "творчасьць" падпадае значна болей, чым прынята лічыць. Напрыклад, дыпляматыя -- хіба гэта ня творчасьць? Альбо палітыка -- таксама своеасаблівае мастацтва. Ды, што там казаць, усе, што зьвязана з чалавечай дзейнасьцю, можа быць, у сваю чаргу, зьвязана з творчасьцю й мастацтвам. Таму ў "Квадраколе" фігуравалі розныя запрошаныя Госьцікі: мастак Сяргей Рымашэўскі, знаўца народных звычаяў сп. Маркушэўскі з-пад Ецэвічаў, выканаўца казацкіх песень Мікалай Сядоў, выканаўца тувінскіх гарлавых сьпеваў, вядомы ва ўсім сьвеце экстрасэнс Доктар Эдбай, марсыянскі шпіен, які, натуральна, не пажадаў назваць свае імя, паэт Кастусь Гаманец, прадстаунік нетрадыцыйнае мэтэаралегіі Казімер Грак і шмат іншых, усіх не пералічыш.

Але сеньняшні, газэтны варыянт "Квадраколы" вымагае іншае стылістыкі, таму квадраколер Лявон Вольскі проста падзеліцца з вамі некаторымі сваімі думкамі й меркаваньнямі пра нашае, як яго часта называюць, няпростае жыцьце. І пра наш, як яго яшчэ часьцей называюць, складаны час. Такім чынам

### КУЛЬТ ВУДУ. БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ

Мая адукацыя, адукацыя чалавека й будучага квадраколера, пачыналася, як і шмат у каго, зь дзіцячага садку. І там я першы раз убачыў гэтага чалавека. З добрымі вачыма, з востранькай бародкай, з лысай галавою, вялікага сябра ўсіх дзяцей і, як вядома, самага чалавечнага чалавека. Гэты чалавечны чалавек быў паўсюль: у кніжках, на сьценах, ен жыў у магнітафоне і ў праігравальніку, радыепрыймачы, на кінаэкране. Схавацца ад яго можна было адно дома, дзе не віселі ягоныя партрэты, дзе не было кнігаў пра яго і дзе не круцілі, як у дзіцячым садку, плыткі зь ягонымі прамовамі. Хаця, калі казаць шчыра, дык і дома ён час ад часу зьяўляўся: вынырваў з экрану нашага старэнькага, з дызайнам у стылі ампір, тэлевізарчыка.

Дык вось, гэтаму чалавечнаму чалавеку належаць, як гэта прынята казаць, крылатыя словы: "вучыцца, вучыцца і вучыцца". Гэтыя словы суправаджалі мяне ледзь ня ўсе жыццё. Першы раз я зь імі сустрэўся ў дзіцячым садку. Потым -- у школе. Потым -- у мастацкай вучэльні. Нават у войску гэтыя словы ўпарта суправаджалі мяне. І ўрэшце я да іх прызвычаіўся. Як прызвычайваюцца да прадмету інтэр'ера -- толькі ня хатняга, а службовага.

І вось аднойчы, калі я, выконваючы запавет, у чарговы раз вучыўся, я пачуў іншыя словы чалавека з вострай бародкай. Гучалі яны гэтак: "Жыць у грамадстве й быць вольным ад грамадства немажліва". Відаць, аўтар гэтых словаў меў рацыю. Бо сеньня я чамусьці не разважаю пра карціны й музыку, а дзялюся з вамі сваімі /дарэчы без аніякае прэтэнзыі на аб'ектыўнасьць/ думкамі пра наш, як тыя казалі, няпросты час і нашае, як тыя ж казалі, складанае жыцьце.

Як гэта ні дзіўна, надыйшлі іншыя часы, і цяпер мяне суправаджаюць іншыя твары й іншыя галасы. Яны таксама жывуць у маім тэлевізары, радыепрыймачы, у газэтах, у размовах на вуліцах.

Ведаеце, у далекай Афрыцы, куды мы наўрад ці калі патрапім, есьць гэткая непрыемная рэч. Яна завецца культ Вуду. Я спадзяюся, у вас няма шкоднае звычкі чытаць газэты падчас сьняданку, палудні ці вячэры. Бо, як вядома, прадукты культа Вуду -- гэта зомбі, ажыўленыя мерцьвякі, якія ходзяць, выконваюць загады свайго гаспадара /шамана/, пры гэтым яны вельмі выгодныя, бо не патрабуюць ані ежы ані пітва. Невядома, якім чынам гэта робіцца, як зрэшты, не даказана, што гэтыя зомбі існуюць насамроч. Што ж робіцца ў краіне высокаразьвітай манумэнтальнай прапаганды й нагляднай агітацыі з так званым сярэднім чалавекам? Які штодня чуе адны й тыя словы, бачыць на экране адны й тыя твары, якога суправаджаюць праз жыцьце адны й тыя выслоўі, выразы... У рэшце рэшт гэты чалавек пачынае рабіць ня тое, што хочацца яму, а тое, што хочуць ягоныя гаспадары. Ен кідаецца на амбразуру, захіляе сваім целам камандзіра, гіне, каб ўратаваць з вагню сьцяг брыгады, едзе на БАМ, на цаліну. Пры гэтым ен не патрабуе шмат грошай, а есьці можа раз на дзень. Міжволі і прыгадваецца далекая Афрыка зь ейнымі таямнічымі, але, на маю думку, ня вельмі ад нас далекімі культамі.

Я жыву ў Менску. Ягоны цэнтар забудаваны пасьля вайны. І стыль гэтых пабудоваў завецца, хутчэй за ўсе, "сталінскі ампір". Чыгунныя агароджы, высокія, цяжкія чыгунныя брамы. Вылітыя з чыгуну пяціканцовыя зоркі, вянкі, сымболі ведаў ды сымболі нашае вайсковае моцы... Мы жывем сярод гэтага, й ва ўсім гэтым ёсьць нешта настальгічна-кранальнае. І натуральна, што дэманстранты з чырвонымі сьцягамі й чырвонымі фанатычнымі вачыма пасуюць сюды болей, чым шапікі з хот-догамі й гамбургэрамі, якіх, зрэшты, і няма, але зьяўленьня якіх так не хочуць тыя, што дэманструюць свае чырвоныя сьцягі.

Дарэчы, якія будынкі, такія й іхнія назовы. Дом афіцэраў, Дом піянэраў, Дом Урада. Але Дом Урада -- гэта асобная размова й тэмат культа Вуду /я зноў спадзяюся, што вы не ясьце ў гэты час/ таксама зойме ў гэтай размове свае пачэснае мейсца.

Дом Урада. Простакутна-трывалы. Чорныя вокны, за якімі нічога й нікога ня ўбачыш. Чорная фігура правадыра на чорным п'едэстале.

Побач -- Чырвоны касьцел. Псэўдаготыка, завостраныя вежы, імкненьне ўгару, да неба.

Дом Урада ня мае ніякіх вострых гмахаў. Ен не імкнецца да неба, ен трывала стаіць на зямлі й тыя, хто там працуе, прынамсі большасьць зь іх, моляцца зусім іншаму богу.

Я рэдка гляджу тэлевізар. Асабліва беларускі канал. Але, каюся, час ад часу здараецца. І неяк я меў неасьцярожнасьць паглядзець некаторыя з трансьляцыяў работы Вярхоўнага Савета. З таго самага Дома Ураду. Я быў непрыемна зьдзіўлены тварамі большасьці дэпутатаў, іхняй моваю, манэрамі. Усе гэта нагадала мне нейкі таямнічы рытуал невядомай мне рэлігіі. Выступы ж дэпутатаў ад апазыцыі ўспрымаліся нейкім парушэньнем рытуала, дысгармоніяй.

Затое прамовы прэм'ера абсалютна пасавалі да агульнага настрою, да таямнічае культавае атмасфэры й наогул да будынка Дома Урада. Прэм'ер падаецца мне гэткім вярхоўным шаманам, у дзеяньнях, у словах і на твары якога таямнічы культ дасягнуў найвышэйшае канцэнтрацыі. Як і большасьць дэпутатаў, ен гаворыць на таямнічай мове, якая не з'яўляецца ні расейскай, ні беларускай. А сэнс ягоных пастановаў ды загадаў інакш, як службаю невядомаму культу, не патлумачыш.

Вось былы Старшыня дазваляў сабе размаўляць аж на дзьвюх мовах. Пэўна, гэтым і тлумачыцца зьняцьце яго з пасады. Гэта, відаць, нэрвавала астатнюю дэпутацкую большасьць і, зноў жа, несла дысгармонію ў рытуал.

Дык вось. Без прэтэнзыяў на аб'ектыўнасьць, магу вам паведаміць: я здагадаўся, што гэта за рытуал, што за рэлігія. Гэта той самы культ Вуду. Паглядзіце на твары гэтых людзей, зазірніце ў іхнія вочы -- гэта будзе лепшым доказам. Іхнія ўчынкі нічым іншым немажліва патлумачыць.

Але, як заўжды, атрымалася недарэчнасьць. Прыхільнікі культа Вуду самі патрапілі пад ягонае шкоднае ўзьдзеяньне. І таксама параўтварыліся ў паўзомбі. Паглядзіце, зноў жа, на прэм'ера...

Хаця, баюся, што дарэмна я раю вам глядзець на яго. Узьдзеяньне культа Вуду ня вывучанае, таму, мажліва, глядзець і слухаць жрацоў гэтага культу, якія да таго ж адначасова зьяўляюцца ягонымі ахвярамі, вельмі шкодна.

А між тым не глядзець і ня слухаць даволі цяжка. Бо прэм'ер змагаецца за прэзыденцкую пасаду і робіць усе захады, каб часьцей паказвацца на экране і на старонках газэтаў. Ён цяпер заняў мейсца таго чалавечнага чалавека з бародкаю, пра якога я казаў вышэй. І які, безумоўна, таксама служыў культу Вуду /гэта відаць нават па тым, як ен пахаваны/. Я мушу вас папярэдзіць: лепей ня слухаць прэм'ераўскія прамовы й не глядзець перадачы зь ягоным удзелам, бо шкода для чалавечага арганізма можа быць велізарная.

Зрэшты, гэта вашая справа. Калі хочаце, глядзіце. Вам, дарэчы, і вырашаць, ці будзе Беларусь пад культам Вуду. А мая справа падзяліцца з вамі сваімі цікавымі назіраньнямі і неаб'ектыўнымі высновамі. Тым болей, што калі мы апынемся пад прыгнетам новага культу, новае рэлігіі, магчымасьці ў мяне паразмаўляць з вамі ня будзе. Ня будзе ніякіх "Квадраколаў", "Беларускіх маладзёжных", рок-нролаў, незалежных тэлевізіяў, эротыкаў і іншых дэстабілізуючых зьяваў.

І зноў вернецца той чалавечак з бародкаю, які загадаў аж тройчы вучыцца й трапна адзначыў ролю асобы ў грамадстве. Бо які ж культ Вуду безь ягонага засушанага сымбалю?

Можа, вам хочацца спакою? Цішыні? Дык, калі мы апынемся пад новым культам, цішыню я вам гарантую. Мертвую. Бо зомбі не размаўляюць.

*Квадраколер*
*Лявон ВОЛЬСКІ*

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:

# "ХАЧУ ЎЗАРАЦЬ ПОЛЕ БЕЛАРУШЧЫНАЙ, НЕ АЗІРАЮЧЫСЯ НА ГАДЗІНАЎ..."

**...Яго можна ўпікаць: маўляў, што гэта ён усё бяжыць наперадзе цягніка /па-мойму, найчасцей сьвядома -- В.С./, але нельга не лічыцца з тым, што бадай усе ягоныя прагнозы спраўдзіліся і спраўджваюцца. ён ня першы год трымае руку на грамадскім нэрву. Ягоныя словы ставяць усіх нас перад неабходнасцю Выбару. 30 кастрычніка 88-га; Курапаты, Чарнобыль, 19 жніўня 91-га... Ды хіба прасочыш усе падзеі, якія ўсхалынулі кожнага і дзе ягоныя словы прагучалі ў ліку першых?! Бадай што і няма ўжо месца дзеля ўзгадкі, што ў ім дагэтуль жыве творца-публіцыст, вучоны, археоляг, паэт. Аднак і яму смяротна надакучыў ўтвораны незалежна ад яго ў віры палітычных баталіяў ягоны плякатны партрэт. Але ці атрымаецца скінуць маску? Так ці інакш, наш госьць -- ЗЯНОН ПАЗЬНЯК, старшыня сойму Беларускага Народнага фронту, лідэр парляманцкае апазыцыі, кандыдат на пасаду першага прэзідэнта Беларусі.**

-- Тое, што зьмяніўся імідж руху і Лідэру, відавочна: раней гаварылася пра "супрацоўніцтва БНФ з лепшымі сіламі кампартыі", зараз жорсткі антыкамунізм, які вытрымліваюць бадай што ўсе партыі і рухі, якія узьніклі пад дахам БНФ-БСДГ, НДП, БЗВ і г.д. Дый Вы публічна абвесцілі пра ўласную прыхільнасць да клясычнае хрысціянскае дэмакратыі...

-- Між іншым, за ўсю гысторыю супрацоўніцтвам з камуністамі /чытай -- з бандытамі/ Фронт аніколі не заплямлены. Тое, што найбольш сумленныя прафэсыяналы ды інтэлектуалы перайшлі да нас -- лягічны крок зь іх боку. Але й нямэнклятура цяпер ня тая пайшла. Скарыстаўшы ўладу і доступ да дзяржаўнае маёмасьці, яны пачалі пераразмяркоўваць апошнюю ва ўласную прыватную маёмасць -- тое, што ў народзе ахрысцілі "прыхватызацыяй". Гэты працэс раскрадання й стварэння мафіёзнай дзяржавы "пайшоў" з 91 года, калі фармальна набылі незалежнасць. Дачы, катэджы, дутыя "СП", махінацыі з курсамі валютаў -- усяго не пералічыць, з-за чаго ня йдуць рэформы. Хоць нібыта выдаюцца законы аб прадпрыемстве, аб уласнасці, але яны не унівэрсальныя, бо папярэдне ня вырашана пытанне зь зямлёй, з уласнасцю, і хто ўласнік, на чыю валюту жывем. А толькі пры гэтым можна пачынаць прыватызацыю.

-- Няўжо намэнклятура ня хоча стаць уласьнікам?..

-- Тады ж трэба будзе з народам дзяліцца! А так, па нашых зьвестках, толькі на канец 92 года 20 адсоткаў дзяржмаёмасці Беларусі раскрадзена. Дарэчы, асаблівасць беларускай намэнклятуры ў тым, што яна ўзрошчаная на нацыянальным нігілізме. Таму зараз, калі эканамічны крах на відавоку, яны гатовыя "здаць" два буйнейшых нафтапераапрацоўчых завода ў Эўропе Расеі, здаць саму дзяржаву, Незалежнасць, увайсці ў якія хочаш ваенна-палітычныя блёкі з Арменіяй, Таджыкістанам і г.д. Маўляў, яны са сваёй рэптыльнай псыхалёгіяй і нарабаванымі мільярдамі не прападуць. Крымінальшчыны вакол гэтых людзей жахліва шмат: афёра з акулярнымі аправамі, нажыванне на ліцэнзіях, раскраданне ваеннай маёмасці. Істотна тое, што нарабаванае нікуды не ўкладваецца, але ў мяхах чакае сваяго часу. Ці,



дакладней, ляжыць у швэйцарскіх ды нямецкіх банках, інвэстуючы тамтэйшыя эканомікі. На канец таго ж 92 года ў Нямеччыне знаходзілася 20 млрд даляраў з краінаў СНД. Вось вам асновы мафіёзнай дзяржавы, ўтворанай на зрошчванні карумпаванай бюракратыі з крымінальнымі элямэнтамі. Цяпер гэтыя грашовыя мяшкі будуць прыстасоўваць нацыю й дзяржаву пад сябе. Тыповы лацінаамэрыканскі варыянт -- купка алігархіі зьверху і галеча ды гарота ў масах.

-- Калі ж крывасмокі нап'юцца, ці зможа БНФ ўсур'ёз выйсці на арэну з ільвамі?

-- Калі ня будзе знешняга фактару накшталт сакавіцкіх страйкаў ці прыхода прэзыдэнта-дэмакрата, гэты Вярхоўны Савет дацягне да "пераможнага" канца і з новымі выбарамі пачнуцца зьмены. Пакуль жа цалкам вытлумачальная апатыя народу: падсвядома людзі адчувалі, што ня было аніякага мэханізму распусціць парлямант, правесьці новыя выбары.

-- Тым часам і пра вас камуністычны друк распаўсюдзіў плёткі, што Пазьняк пераехаў на прашпэкт Машэрава ў чатырохпакаёвую кватэру, будуе шыкоўнае лецішча пад Баранавічамі, служыў у нямецкай паліцыі...

-- Ну атрымаў "дзвухпакаёўку" ў... 79 годзе разам з маці, выстаяўшы 15 гадоў. З іншага боку, у нас найбольш гарачыя галовы заклікаюць да паўстання, ледзь не да часоў Касцюшкі. Крывя ніколі не давядзе да дабра. Адзіная канстытуцыйная магчымасць -- закон аб рэфэрэндуме, прыняты пад ціскам апазыцыі. Але камуністычны сойм растаптаў правы паўмільёна выбаршчыкаў, парушыў закон --вось дзе б "узарвацца" грамадству, тысячамі прыехаць у Менск пад сцены Вярхоўнага Савету! Мы ж ізноў адчулі магільны спакой. Пераканаы, толькі на ўпэўненасці, што з сённяшняга беларускага грамадства можна вяроўкі віць, гадзюкамі паганяць і смалой карміць, трымаецца сённяшняя антынародная ўлада.

-- Зянон Станіслававіч, вы апантаны чалавек?

-- Віталь, я не фанатык і гэта тая частка адмоўнага іміджу, якую б жадаў адкінуць, хоць баюся, памру з гэтым іміджам, бо ведаю ўладу стэрэатыпаў над грамадствам. Самае вялікае шчасце для мяне неаддзельнае ад шчасця Бацькаўшчыны, народа. Я гэтаму прысвяціў сваё жыццё. Каб залежала здзяйсненне гэтых мараў ад маёй смерці, канешне, пытанняў, як кажуць няма.

Але ж патрэбна цярплівая, штодзённая, без разьменьвання на дробязі, праца. Таму й ня адказваю на ўсялякую лухту, што пішуць асабіста пра мяне. Бог ім суддзя. Асабіста я нікому не зрабіў зла, ні на каго не падаў у суд. У той жа час сустракаўся з тымі, хто напачатку мяне паносіў усяляк -- але пасля гаманы сыходзілі маімі прыхільнікамі.

-- Хто Вы па веравызнанню?

-- Я хрышчоны каталік, але БНФ і я асабіста аднолькава ставіцца да усіх хрысціянскіх канфэсыяў. Канешне, падтрымліваю імкненне ўсіх іх да аўтакефальнасці, каб не было праз іх палітычнага ўздзеяння на нашую дзяржаву.

-- Ці можам зараз пачуць Пазьняка-паэта?

-- Не, я не такі ўжо паэт, каб чытаць экспромтам. Дзеля гэтага мне трэба адпаведны настрой, "паплакацца" як след...

-- Вы зрэдку ўсміхаецеся на людзях. Імідж не дазваляе, альбо вялікая мудрасць спараджае вялікую самоту?

-- Можа мой недахоп, але лічу: на людзях палітык павінен быць заўжды сур'ёзны, сабраны. Бо калі расслабіўся, трапляеш у пастку.

-- Вы лічыце, творца абавязаны займацца палітыкай зараз?

-- Калі здольны, мусіш дапамагчы людцам, Бацькаўшчыне, культуры. Адзін чалавек жыве для сваёй справы, сям'і, другі ня можа пачуваць сябе добра, калі дрэнна Беларусі. Трэба сеяць. Я ўспамінаю заўжды прыпавесць пра Вінямёйнэна з Калевалы. ён мусіў прайсці праз некалькі выпрабаванняў. Адно зь іх -- прайсці праз гадзючае поле з сахой. Трэба было ўзараць яго, ні разу не азірнуўшыся. У гэтае мудрасці сэнс таго, як адзін чалавек можа ў прынцыпе змагацца з таталітарным монстрам. Я адчуваю: сёння ён яшчэ правіць балю, заўтра, зь яго будуць смяяцца. Я задаволены сваім жыццём. Хацеў бы пажадаць табе, тваім чытачам і ўсім --Шчасця на вольнай Бацькаўшчыне.

*Віталь СЯМАШКА*

## *СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ:*

# ПУЦЯВІНА ЛЕСУ



На XII сессіі Вярхоўнага Савета Беларусі, на пачатку чэрвеня 93-га года, адбылася падзея, якую мала хто прыкмеціў, аддаючы ўвагу палкай дыскусіі аб калектыўнай бяспецы. Мусячы неяк рэагаваць на трывогу грамадскасці: "Наменклатура рабуе дзяржаву" — парламент абвясціў аб стварэнні часовай камісіі для вывучэння дзейнасці камерцыйных структур, дзеючых пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання. Старшынёй камісіі абралі дэпутата Лукашэнку.

Сіплаваты, заўжды з гнеўнымі ноткамі голас Аляксандра Лукашэнкі, дырэктара саўгаса "Гарадзец" Шклоўскага раёна, аматары радыётрансляцый з сесій Вярхоўнага Савета вызначалі к таму часу ўжо беспамылкова з першай фразы. Ён рваўся да мікрафона пры любой нагодзе, гаварыў хоць часамі і не па тэме, але заўседы палымяна. А галоўнае -- кожны раз некага клеймаваў, выкрываў. І такім чынам закранаў патрэбныя струны ў душах тых грамадзян, што надзвычай любяць простыя сацыяльныя рэцэпты: вось чарговы вораг, яго трэба сцёрці ў кулеш, тады ўсім стане добра. З цягам часу ўлюбёнай мішэнню для філіпік Лукашэнкі стала асоба Станіслава Шушкевіча. Паколькі першы не выбіраў слоў, то другі, паддаючыся натуральным чалавечым эмоцыям, пачаў раз-пораз адказваць таксама колкімі рэплікамі, а то па праву спікера нават перапыняў апанента, кваліфікуючы ягоны чарговы выпад як абразу... Іх стасункі сталі, мякка кажучы, не цёплымі. Падтрымліваючы кандыдатуру Лукашэнкі на пост старшыні часовай камісіі (якая потым атрымала ў народзе спрошчаную назву "антымафіёзнай") Шушкевіч спадзяваўся ўпотай, што такім чынам нястрыманая энергія ягонага зацятага апанента накіруецца ў іншае рэчышча, што няўрымслівы змагар Лукашэнка не пабаіцца раскрыць красамоўныя факты з жыцця наменклатуры.

Але атрымалася зусім інакш. Арэол бясстрашнага барацьбіта з мафіяй надзвычай узняў уласныя амбіцыі Лукашэнкі, ён адчуў сябе рэальным прэтэндэнтам на пакуль -- што гіпатэтычнае, але ўжо вельмі магчымае прэзідэнцкае крэсла. Адным з наймацнейшых канкурэнтаў на гэтым шляху ўяўляўся, безумоўна, Станіслаў Шушкевіч.

І канфрантацыя паміж старшынёй антымафіёзнай каміссіі і старшынёй Вярхоўнага Савета перайшла ў яшчэ больш вострую, бескампрамісную фазу.

Тыя, хто даўно марыў зваліць Шушкевіча, толькі паціралі далоні: здаецца, удача сама бяжыць да іх у рукі.

* * *

9 лістапада 1993 года пачалася чарговая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі -- трынаццатая па ліку. Вось і не вер пасля гэтага ў прыкметы: менавіта яна, трынаццатая, стане для Шушкевіча апошняй ў ролі спікера. Хоць, калі сур'езна, справа была зусім не ў чортавым тузіне -- адбылося тое, што рана ці позна павінна было адбыцца...

З набліжэннем таго дня, калі на сесіі павінен быў выступіць са справаздачным дакладам кіраўнік "антымафіёзнай" камісіі, ажыятаж і ў парламенцкай зале, і ва ўсім грамадстве нарастаў. Лукашэнка інтрыгаваў публіку заявамі пра тое, што камісія сабрала цэлыя "чамаданы кампрамату" на вельмі вялікіх шышак.

14 снежня, калі Лукашэнка нарэшце ўзняўся на трыбуну, Шушкевіча у Авальнай зале не было: напярэдадні ён тэрмінова выляцеў у Ташкент. З якой нагоды -- прэс-служба Вярхоўнага Савета не тлумачыла...

На людзей недасведчаных даклад зрабіў сапраўды моцнае ўражанне: з выкрывальніцкім пафасам былі названы дзесяткі імёнаў даволі важных "птушак", якія па глыбокім перакананні дакладчыка, добра набілі валякі з дзяржаўнай кармушкі.

Але калі распачаліся спрэчкі, высветлілася, што ладная частка кампрамату -- гэта не што іншае, як сякера, знойдзенная пад лавай. Дакладней -- пад лавамі МУС, КДБ, Пракуратуры. І праваахоўныя органы ў многіх выпадках ужо прымаюць адпаведныя захады па высветленных імі -- менавіта імі! -- фактах. Назваць жа каго б там ні было злачынцам можа суд і толькі суд, а не парламенцкая камісія, хай сабе і такая грозная ды бескампрамісная. А яшчэ адна частка кампрамату на вачах развалілася бы картачны дамок, калі на трыбуну сесіі пачалі ўзнімацца заклеймаваныя ў дакладзе службовыя асобы і аргументавана адмятаць прыцягнутыя за вушы абвінавачванні. У каго-кольвечы галоўны барацьбіт з мафіяй мусіў адразу ж прасіць прабачэння.

Гэта акалічнасць, аднак, Лукашэнку не збянтэжыла. На прэс-канферэнцыі ў той самы дзень ён заявіў, што яшчэ не вечар, не ўсе козыры раскрытыя -- у прыватнасці "каб не гаварыць за вочы, давялося выключыць з тэксту даклада інфармацыю пра шаноўнага спікера". Урэшце, намек на характар грахоў быў зроблены: рамонтна-будаўнічае ўпраўленне Саўміна шчыравала, маўляў, на чатырох аб'ектах, запісанных на імя Шушкевіча.

У наступныя два дні парламент нагадваў вулей, у які кінулі палаючую галавешку. Лукашэнка зноў узяў слова і стаў выграбаць з "чамаданаў" новыя порцыі кампрамату. У прыватнасці, была агучана чарнавая даводка пра дзейнасць РБУ Саўміна, з чаго вынікала, што Шушкевіч нібыта не даплаціў за выкананыя па ягоных заказах работы.

Абвінавачаныя дэпутаты і службовыя асобы адзін за адным рваліся да мікрафону, каб даць гнеўны адлуп. Лукашэнка не заставаўся ў даўгу. Усчаўся даволі непрыгожы абмен слоўнымі аплявухамі. У рэшце рэшт, каб не ладзіць пасмешышча на ўсю краіну, вырашылі перапыніць трансляцыю...

Шушкевіч, які да таго часу ўжо вярнуўся з Ташкента і заняў крэсла ў Авальнай зале, стрымліваўся як мог, хоць збоку было добра бачна, чаго гэта яму каштуе. У рэшце рэштаў нервы, відаць, не вытрымалі: падчас чарговай філіпікі Лукашэнкі старшыня парламента загадаў адключыць мікрафон. У Авальнай зале ўсчаўся нябачны вэрхал...

Калі пасля перапынку дэпутаты зноў сабраліся ў зале, Шушкевіча сярод іх ужо не было. Прагучала інфармацыя, што ён шпіталізаваны з дыягназам гіпертанічны крыз.

Неўзабаве ўсё той самы няўрымслівы Лукашэнка заявіў, што старшыня парламента сімулюе хваробу, і дэпутат Рыгор Вячэрскі мусіць зачытаць медыцынскую даведку, з якой большасць прысутных на сесіі ўпершыню даведаецца, што Шушкевіч пакутуе ад перыядычнага павышэння артэрыяльнага ціску яшчэ з 1981 года, а 20 снежня 93-га, у прыватнасці, лекарскі манометр зафіксаваў у хворага скачок да 190 на 110 міліметраў ртутнага слупа...

Сесія ж у адсутнасць спікера неўзабаве перапыніць працу, і дэпутаты раз'едуцца на калядныя вакацыі, адклаўшы фінал разборак на другую палову студзеня наступнага года. Праўда, да перадкаляднага разбору андатравых шапак у парламенцкім гардэробе, быў закладзены арганізацыйны падмурак далейшых дзеянняў, і ў кулуарах Вярхоўнага Савета распачаўся збор подпісаў за адстаўку ягонага кіраўніка. Хтосьці ставіў свой аўтограф са шчырай ахвотай, кагосьці з прадстаўнікоў "балота" давялося настойліва агітаваць, камусьці, падобна, паабяцалі "тое за тое"...

**Адступленне. Аўтарскі допыт (красавік 1994 г.)**

-- Калі вы адчулі, што адстаўка непазбежна і, можа, да апошняга моманту цеплілася надзея, што ўсё неяк абыдзецца?

-- Не, ніякіх ілюзій не было ўжо летам 93-га. Цудам хутчэй варта лічыць тое, што адстаўка не адбылася раней. І справа не ў Лукашэнку -- пракамуністычная большасць выкарыстала б любую даўбешку.

* * *

За некалькі дзён да таго, акурат у дзень прыбыцця ў Мінск амерыканскага прэзідэнта, парламенцкая большасць атрымала дзівосны падарунак. Цяжка сказаць, ці быў ён нечаканы --падаплека падзеі так і засталася таямніцай за сям'ю пячаткамі. Фактам жа стала тое, што раніцай 15 студзеня са згоды кіраўнікоў беларускіх МУС і КДБ агенты літоўскіх спецслужбаў арыштавалі двух функцыянераў тамтэйшай нелегальнай кампартыі, якія хаваліся ў Мінску ад вышуку, абвінавачаныя ў злачыннай дзейнасці супраць суверэннай Літвы.

Больш зручнага выпадку, каб пакласці на плаху галовы апальных Ягорава і Шыркоўскага, не прыдумаў бы і сам д'ябал.

Лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады дэпутат Алег Трусаў перад тайным галасаваннем аб адстаўцы сілавых міністраў зазначыў у гутарцы з журналістам "Звязды":

-- ... Калі ім удасца пазбавіцца ад гэтых дзвюх асоб -- яны праз некалькі дзён паставяць пытанне аб адстаўцы Шушкевіча. Шлях да поўнага захопу ўлады будзе адкрыты. План у іх адпрацаваны, і яны яго стараюцца выканаць.

Гэта гучала хутчэй нават не прагнозам, а проста канстатацыяй непазбежнага.

Па частцы ўзорнага выканання планаў яны заўсёды былі мастакамі.

* * *

У запланаваным парадку дэпутаты і вярнуліся да пытання, якое не здолелі дабіць перад калядамі -- аб нашумелым антымафіёзным дакладзе. Трэба ж было неяк рэагаваць на кампрамат, прымаць пастанову, што дапамагла б у святым змаганні супраць гідры карупцыі. І з падачы аўтара даклада большасць ахвотна прыйшла да высновы, што таму змаганню найбольш замінае... старшыня Вярхоўнага Савета. Цвіком у праект адпаведнай пастановы быў забіты пункт аб адкліканні Станіслава Шушкевіча з займаемай пасады. Дзеля справядлівасці трэба дадаць, што праект прапаноўваў аналагічную меру пакарання і для прэм'ера Вячаслава Кебіча. Але апошняе, на думку многіх, рабілася толькі дзеля адводу вачэй, маючы ў парламенце магутнае лобі, старшыні Саўміна няма чаго было надта баяцца... Што і падцвердзіла потым галасаванне, па выніках якога Кебічава крэсла за ім жа і засталося. Ну, а пра дзесяткі іншых важных персон, чые прозвішчы фігуравалі ў скандальным дасье Аляксандра Лукашэнкі, ніхто ўжо, здаецца, і не згадваў, тым болей, што ні адна з тых персон якраз і засядала у Авальнай зале...

Такім чынам, у якасці свяшчэннай ахвяры на алтар барацьбы з карупцыяй кінулі неспрактыкаванага ў закулісных гульнях, мала прыстасаванага да "сутычкі бульдогаў пад дываном" ідэаліста-спікера.

Вось і усё.

Ён сышоў з трыбуны і, абмяняўшыся парай слоў з намеснікам, павалі рушыў да закуліснага выхаду з Авальнай залы -- стомлены, трохі ссутулены ад нябачнага цяжару чалавек з вялікім маршакаватым ілбом.

Даносчыкі-мікрафоны агучылі на ўсю рэспубліку ягоны, яўна не разлічаны на такую аўдыторыю, дыялог з намеснікам, што выглядаў прыблізна так:

-- Хіба вы не застаецеся на галасаванне? Ваш голас, дарэчы, таксама будзе ўлічвацца...

-- Ат, ведаеце, мне ўжо ўсё адно... Паеду дадому!

Ён мог прадказаць вынікі, якія праз пару гадзін абнародуе падліковая камісія, з дакладнасцю практычна да голаса. Гэтак сама дакладна было ўсё палічана і ягонымі праціўнікамі. Праз некалькі хвілін пачнецца тайнае галасаванне па пытанні аб змяшчэнні старшыні парламента з пасады. І 209 дэпутатаў выкрасляць у бюллетэнях ягонае прозвішча.

Яго накіравалі ў адстаўку з фенаменальнай фармулёўкай -- "У сувязі з непрыняццем мераў па барацьбе з карупцыяй, адсутнасцю кантролю за работай праваахоўных органаў і праяўленую асабістую нясціпласць". Асаблівае замілаванне выклікае гэтае "праяўленную" -- для філолага бясспрэчны плеаназм, слова-паразіт, але ў дадзеным выпадку яно міжволі правакуе пытанне: а што, маглі б -- і за непраяўленую? Дарэчы, апошні варыянт, бадай, болей адпавядаў бы ісціне, бо на момант галасавання абвінавачванне, быццам бы Шушкевіч за нешта там недаплаціў будаўнікам, было прынамсі не даказана, а пазнейшая грунтоўная праверка і ўвогулле дашчэнту развеяла той кампрамат.

Але хіба кагосці з праціўнікаў Шушкевіча хвалявала тады такая дробязь, як прэзумпцыя невінаватасці? Пра яе згадаюць пазней, калі дэпутат-змагар Лукашэнка, увайшоўшы ў смак славы, не задаволіцца адведзенай яму роляю Шушкевічава магільшчыка і стане падкопвацца пад вышэйшых урадавых чыноўнікаў і саноўных парламентарыяў. Ён імгненна атрымае жорсткі адпор, а ягоную камісію проста скасуюць (што, зрэшты, толькі дадасць яму палітычных дывідэндаў напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі). Светлую ж памяць пра антымафіёзную камісію ўвекавечыць частушачны фальклор:

Аляксандр Лукашэнка --<br>
Беларуская ЧэКа<br>
Міліярды праворонiў,<br>
Скінуў Стася з-за цвіка.

Сам жа Шушкевіч на нейкі час з'ехаў з Мінска на дачу, каб трохі расслабіцца і спакойна сабрацца з думкамі. Праўда, шматлікія журналісты даехалі і туды. Прынамсі, можна было ў натуры прадэманстраваць ім аб'ект, што трапіў у славутае антымафіёзнае дасье. У гэтым доме амаль усе зроблена маймі ўласнымі рукамі, -- тлумачыў ён дасціпным працаўнікам пяра. -- Але любому нармальнаму чалавеку зразумела, калі патрэбны зварачныя работы, тынкоўка, без майстроў не абысціся... Няма ніводнага рахунка, які б я не аплаціў. Калі хтосьці мяркуе, што тут усе робяць за капейкі, клянуся, гэта не так. Увесь мой заробак за апошнія два гады лёг у дачу. Жылі на жончыны грошы.

На пытанне ж, чаму не даводзіў пра ўсё гэта на той чорнай для яго сесіі, -- адказаў: "Уступаць у дыскусіі па гэтым брудзе я лічу ніжэйшым за сваю годнасць. Тады, калі вы памятаеце, я сказаў на сесіі: маім дзецям за мяне чырванець не давядзецца. І я палічыў, што гэтага дастаткова". А напрыканцы інтэрв'ю прызнаўся:

-- Я шалёна стаміўся...

* * *

Неўзабаве ён пачынае серыю паездак па краіне -- Гомель, Брэст, Гродна, Барысаў, Віцебск...

У залах, дзе Шушкевіч сустракаецца з суграмадзянамі, -- не ўпасці яблыку,

Шушкевіч рэзка крытыкуе ўрад і парламент, выступае за іх тэрміновую адстаўку, хутчэйшае правядзенне новых выбараў у Вярхоўны Савет, аб'яднанне дзеля гэтай мэты ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі. Тры кіты, на якіх павінна трымацца тое адзінства, гэта, на думку Шушкевіча, дзяржаўнасць, дэмакратыя, рынак.

Тым часам парламент прымае нарэшце новую Канстытуцыю, якая прадугледжвае пасаду прэзідэнта, а неўзабаве з'яўляецца і закон аб прэзідэнцкіх выбарах. Хутка будзе абвешчана і іх дата -- 23 чэрвеня 1994 года. Але да таго часу неафіцыйная перадвыбарная барацьба будзе ўжо ў разгары. Аб намеры падтрымаць у гэтай барацьбе Шушкевіча абвесціць блок дэмакратычных партый і рухаў "Вясна-94".

Увогуле ж прэтэндэнтаў на найвышэйшае дзяржаўнае крэсла акажацца на дзіва багата. Сімпатыі левага электарату нечакана апынуцца пад пагрозай раздраблення, у якасці патэнцыяльных канкурэнтаў Кебіча (пад якога, на думку многіх і прамаўся закон аб прэзідэнцтве), пачнуць вымалёўвацца фігуры ўжо добра вядомага Лукашэнкі, каго-кольвечы яшчэ... На вылучэнца цэнтрысцкіх сіл стане прэтэндаваць мэр Маладзечна дэпутат Карпенка.

Шушкевіч з самага пачатку выдатна разумеў, што ягонае другое прышесце ў палітыку зусім не стане бесклапотным шпацырам. І ўсе ж -- рушыў...

* * *

**Адступленне. Аўтарскі допыт. (красавік 1994 г.)**

-- Вы з зайздроснай хуткасцю залячылі раны, адаптаваліся да ролі простага дэпутата, хоць падобна, не збіраецеся задавальняцца ею ў перспектыве... Што дапамагло сабрацца з сіламі, адкуль гэтае моцнае другое дыханне?

-- А ў мяне, ведаеце, даволі вялікі вопыт адставак. Ён пачаўся з 46-года, з піянерскага лагеру ў Прылуках, дзе мяне абралі старшынёю савета атрада. Неўзабаве гэтая пасада прыйшлася не да густу, бо я павінен быў перастаць быць самім сабой...

Яшчэ адна своеасаблівая адстаўка адбылася, калі я пакінуў пасаду прарэктара радыётэхнічнага інстытута, бо не жадаў удзельнічаць у цкаванні сумленных, таленавітых навукоўцаў, а змагацца супраць лініі рэктара неставала моцы. Цяпер, праўда, думаю, што тое мае адступленне было памылкай... Увогуле ж адстаўка ў палітыцы --рэч звычайная, тут не трэба рабіць трагедыі. І званне простага дэпутата, за якога прагаласавалі некалі тысячы і тысячы суграмадзян, для мяне, паверце, вельмі ганаровае. Дый увогуле я, відавочна, значна менш сабою асабіста захапляюся,чым вы можаце падумаць.

-- Тады, 26 студзеня, вы нават не сталі чакаць вынікаў галасавання...

-- ...бо ведаў, які яны будуць. Прыхапіў па дарозе асабістыя рэчы са службовага кабінета і паехаў дадому. Там сабраў сяброў, і мы, так бы мовіць, падвялі рысу...

-- Кажуць, у вас адразу адабралі службовую машыну, знялі на кватэры спецсувязь, ахову...

-- Што да машыны, то не зусім так, я і цяпер магу выклікаць легкавік з гаража Вярхоўнага Савета, гэтае права прадугледжана адпаведным законам. Іншая справа, што гэтым не злоўжываю, хоць тыя, каму заўсёды нешта мроіцца, адразу ж сталі падазраваць, што я езджу цяпер па гарадах рэспублікі на казённых колах...

Спецсувязь на кватэры сапраўды адключылі ўмомант, тут усё правільна. Па хлопцах жа з аховы толькі сын трохі пасумаваў, бо ён паспеў з імі моцна пасябраваць.

-- Як прымае вас аўдыторыя ў новай ролі?

-- Красамоўная ў гэтых адносінах -- сустрэча ў Барысаве з людзмі, якім у свой час намеснік старшыні гарвыканкама Трусаў абяцаў, калі будуць скардзіцца на жыллёвыя ўмовы, згнаіць у бараках. Удалося ўсе ж такі гэтых людзей перасяліць, і вось зараз яны мяне сустракалі з хлебам і соллю. Здаецца, я ўпершыню ў жыцці адчуў іх сапраўдны смак...

Сустрэчу ж гэтую ў Барысаве ўсяляк імкнуліся забараніць лідэры тамтэйшых камуністаў. Нават тады, калі яна была ў самым разгары, разыгралі спектакль: з'явіўся кіраўнік раённай міліцыі і прапанаваў "освободить всем помещение, так как здесь заложена мина". Я звярнуўся да залы: "Ну што, пасмяёмся разам?" Пасмяяліся і далей размаўляем. І вы ведаеце, як адрэгаваў на гэта той жа Іван Іванавіч Трусаў? Каб Шушкевіч клапаціўся аб людзях, хіба дазволіў ён правадзіць гэту сустрэчу, калі існуе пагроза выбуху?

Несумленнасць стала для многіх уладу маючых галоўным сродкам дасягнення мэтаў. Такая філасофія ў барысаўскіх бальшавікоў, якія там валодаюць усім. Але людзі ўсё бачаць і добра разумеюць, хто ёсць хто. Я вельмі, напрыклад, баяўся, што ў Гродне -- пасля контрагітацыі па радыё -- людзі не прыйдуць да мяне. Але зала была забіта цалкам. І такі высокі ўзровень культуры, адукаванасці, беларускасці!

Мае цвёрдае перакананне: наменклатура і партыя ўлады заўсёды спрытна выкарыстоўвалі супярэчнасці ў дэмакратычных рухах. Калі знайсці спосаб аб'яднаць дэмакратычны рух на Беларусі на адной перадвыбарчай платформе, не сумняваюся, што дэмакраты б перамаглі, і мы б пайшлі па шляху рэфармавання. Маё найпершае жаданне зараз -- дасягнуць адзінства дэмакратаў.

Аб'яднанне гэта можна адбыцца на падставе трох пазіцый усіх дэмакратычных рухаў -- беларускай дзяржаўнасці, дэмакратыі і рынку. Думаю, БНФ, на жаль, будзе выступаць як асобная сіла, але гэта не значыць, што нельга знайсці спосаб узаемадзеяння і каардынацыі намаганняў.

-- Якім вам бачыцца развіццё падзей?

-- Калі дэмакратычныя сілы аб'яднаюцца і змогуць растлумачыць большасці люду Беларусі, у чым справа -- а я выступаў перад прадстаўнікамі розных партый і ўпэўніўся, што інтэлігенцыя ўсведамляе складанасць сітуацыі, -- калі здолеюць павесці за сабой народ, то ён зможа адхіліць ад улады старую наменклатуру. У Беларусі шмат здольных людзей, якія могуць яе павесці на шляху рэфармавання. І я буду імкнуцца ўсё рабіць для таго, каб перамогу атрымаў менавіта такі варыянт. Хаця рэакцыянеры імкнуцца ўсё рабіць для таго, каб застацца пры ўладзе.

-- І калі азірацца на вашу палітычную кар'еру...

-- Прабачце, што перабіваю, але навошта я буду азірацца? Лічу, што ўсё галоўнае яшчэ наперадзе. Статут пенсіянера мяне пакуль што не задавальняе. Пасля адстаўкі я меў шмат розных прапаноў, але вырашыў, што буду займацца палітычнымі і эканамічнымі даследаваннямі, напрыклад, у якім-небудзь створанным у рэспубліцы Фондзе. Так што крыж на палітыцы ў любым выпадку ставіць не збіраюся. Спадзяюся, што яшчэ здолею папрацаваць на карысць Беларусі...

***ЛЮДМІЛА КЛАСКОУСКАЯ, АЛЯКСАНДР КЛАСКОУСКІ***

**(Урыўкі з новай кнігі)**

